*Апавяданні для дзяцей*

# Адважны верабейка



Стрыжы з'явіліся ў пачатку мая, калі цяплынь абняла зямлю, белай квеценню пакрыліся яблыні, грушы, вішні. З вышыні імкліва спікіравала пара чорных, бы вымазаных сажай, птушак, каля самага долу ўзвілася ў паветра і знікла ў прасторы неба. Здалося, што адтуль, з высі, агледалі, дзе лацвей пабудаваць гняздо, а мо не маглі стрымаць радасці, што вярнуліся дадому з далёкай і небяспечнай вандроўкі.

Праз нейкі час чорныя стрэлы зноў абрынуліся ўніз, пранесліся над высокім дахам калгаснага клуба, пераляцелі над дарогай і апусціліся на вяршаліну старога ясеня. Пачысцілі пёркі, віскліва, радасна павіталіся з радзімай – "взз-взз" і дружна, разам зняліся з галіны. Трапечучы доўгімі крыльцамі, прыляпіліся высока над зямлёй да франтона клуба. Зноўку хутка перамовіліся між сабой – "взз-взз".

Сямейная пара выбірала месцейка, дзе можна было б зладкаваць гняздо. Лапкі ў стрыжоў кароценькія, слабыя, таму птушкі ніколі не садзяцца на дол, бо ўзляцець не могуць. Увесь час кормяцца ў паветры, а гнёзды будуюць высока над зямлёй: ці ў дупле дрэва, ці дзе-небудзь на стромым абрыве, ці пад дахамі будынкаў. Нават матэрыял для жытла здабываюць у паветры на ляту. Падыме вецер пярынку, сухую траву ці яшчэ што, стрыж – тут як тут. Схопіць у дзюбку і ляціць да гнязда.

Месца стрыжам, відаць, спадабалася, бо зноў пагаварылі адно з адным. І высока, і зручна будавацца: на франтоне дошчачкі негабляваныя, шурпатыя, гняздо будзе трывала вісець.

Цягнуў цёплы, лёгкі ветрык, уздымаў з долу сухія былінкі, пярынкі, зжаўцелыя бязважкія лісточкі. А гэта для стрыжоў найлепшы матэрыял, каб ляпіць шчыльнае гняздзечка.

Цэлы дзень да заходу сонца стрыжы насіліся ў паветры, падхоплівалі дзюбкамі то травінку, то якую нітачку, зносілі да гнязда, змацоўвалі слінай, каб і вецер яго не сарваў, і дождж не замачыў. Неўзабаве самачка адклала тры бліскуча-белыя яйцы, пачалі па чарзе наседжваць. Надышоў момант, калі з гнязда імкліва зляцелі маладыя птушачкі. Рассякаючы крыльцамі гарачае ліпеньскае паветра, панесліся ў неба. Чорненькія, як і іх бацькі, толькі каля дзюбак белыя пёркі ўперамежку з чорнымі. Маладыя стрыжы насіліся ўвесь дзень, ні разу не прыселі.

У жніўні птушкі зніклі, паляцелі ў далёкую дарогу.

На другі год стрыжы пpыляцелі зноў. На гэты раз іх было чацвёра. Вядома ж, тыя, што вяліся ў мінулым годзе, адразу занялі сваю хатку, а другая пара разгублена насілася ў паветры, трывожна крычала сваё нязменнае "взз-взз". Справа ў тым, што ўжо колькі дзён стаяла бязветранае надвор'е, у паветры не лёталі ні пярынкі, ні сухія былінкі, і будаваць гняздо не было з чаго. І на другі дзень не было ветру. Небаракі разгубіліся. Толькі вераб'і радаваліся надвор'ю: яны ўжо нацягалі з долу ў гняздо ўсяго, што ім было патрэбна, весела чырыкалі. Ім не было ніякай справы да беды стрыжоў.

Адзін верабейка-спрытнюга збудаваў гняздзечка пад дахам клубнай будыніны і весела распяваў сваю няхітрую песеньку "чыкчырык". Стрыжы раз-другі праміль-гнулі міма яго, але верабей не звярнуў на іх увагі – у яго свае клопаты. Птушкі прыселі каля вераб'інага гнязда, адзін са стрыжоў спрытна залез у дамоўку, відаць, праверыў, якое там жытло і ці варта займаць яго. Стары верабей скасавурыўся на нахабу, злосна чырыкнуў, бы папярэджваў таго: "Мая хата, сам збудаваў, не лезь". Але стрыжы, вядома, не ведалі ягонай мовы. Самец вылез з гнязда, нешта коратка сказаў сяброўцы. У гэты момант верабейка, урэшце, раскумекаў, што прышэльцы і сапраўды паквапіліся на яго гняздо, натапырыў пёры і зверху рынуўся на няпрошаных гасцей.

Стрыжы спачатку не зразумелі намеру вераб'я, мірна балбаталі між сабой, але, калі той балюча дзеўбануў самачку і яна спікіравала ўніз, самец ледзь паспеў уратавацца. Чорнай стралой пранізаў паветра; верабейка, хоць і дрэнны лятун, апантана нёсся за ім, пагрозліва чырыкаючы. Стрыж рэзка пайшоў увысь, набраў хуткасць, і толькі тады гаспадар гнязда адстаў, павярнуў назад. Першым чынам праверыў гняздо, а потым пераможна ўсеўся на дах, весела зачырыкаў, абвяшчаючы ўсім на свеце, што адважна адстаяў сваё жытло.

На другі дзень надвор'е змянілася, пахаладала, падзьмуў вецер-свяжак. Стрыжам можна было пачынаць будаваць гняздо, але яны не захацелі жыць побач з задзірам-вераб'ём. У апошні раз пасядзелі на старым ясені і дружна, крыло ў крыло, паляцелі ў недалёкі лясок. На ўзлессі ў дупле сасны ўладкавалі цёплае, утульнае гняздзечка. Месца так спадабалася стрыжам, што туды яны прылятали не адзін год.

# Нечаканае выратаванне

У кустоўі пранізліва крычалі маладыя галкі: ці радаваліся, што выбавіліся з гнязда на прастору, ці мо раіліся з бацькамі? На палянцы сабралася ўся сям'я – маладыя бавіліся ўнізе, старыя паважна сядзелі на ніжніх суках дрэва, назіралі за парадкам.

Раз-пораз сямейка, падпарадкоўваючыся загаду бацькоў, узвівалася ў паветра, шумнай чародкай пералятала на другі бок палянкі, рассаджвалася радком на кустах. Старыя з краю на гнуткай галіне, за імі малыя сыпаліся зверху і садзіліся побач. Асабліва любілі птушкі адпачываць на старым лазовым кусце, які рос пасярод палянкі. Пасядуць радком, абмяркуюць свае справы – і весела разлятаюцца ў розныя бакі. Аднойчы галкі прыселі на танкаватую галінку, якая расла з рагулькі. Тая нахілілася пад цяжарам, расшчапілася, але не адламалася. І трэба ж так здарыцца, што адно галчаня прысела на расколіну. Птушкі пасядзелі, пагаманілі і ўсім гамузам спырхнулі з галінкі. А адно галчаня крыху запазнілася і трапіла ў пастку: галінка выпрасталася і зацiснула ў расколіне птушыную лапку. Малое пранізліва закрычала ад болю, не магло ўзляцець.

Птушкі закружыліся над бедакам, закрычалі, але не маглі зразумець, чаму галчаня крычыць. Хвілін дзесяць трывожна мітусіліся птушкі, жаласліва крычалі. Але адна з іх, маці ці бацька, прысела на галінку побач з галчанём, падсунулася бліжэй, пазірала, скасавурыўшыся, ды не магла ўцяміць, чаму птушанё не ўзлятае. Потым нешта сказала дзецям на сваёй птушынай мове, і галкі пасыпаліся зверху, паселі на галінку. Пад іх цяжарам яна апусцілася, расколіна разышлася, вызваліўшы лапку галчаняці. Малое пырхнула ўніз, радасна закрычала. Птушкі зняліся з галінкі, акружылі сяброўку, заверашчалі.

Лазовы куст галкі абміналі, болей не садзіліся на яго галінкі.

**Алесь ДЗЯТЛАЎ.**

*Любопытным*

## Сильные духом

«Далеко, далеко на озере Чад задумчивый бродит жираф». Оно и хорошо, что далеко. Ибо находиться вблизи от жирафа решительно невозможно – уж больно дух от него ядреный. Говорят, что один жираф «благоухает» крепче целого стада козлов.

Заинтересовавшиеся этим свойством жирафьего организма ученые из Калифорнийского университета изучили состав выделений кожи животного и обнаружили сильнодействующие природные антибиотики и репелленты. Уже сейчас ясно, что это открытие имеет большое значение для фармацевтической промышленности и бытовой химии.

# Самая прыгожая і грацыёзная

На ўзлессі, уздоўж малаезджаных дарог, часам можна ўбачыць адбіткі вострых капытоў. Яны падобныя на сляды хатніх коз. Тут прайшла казуля – самая маленькая жывёла з сямейства аленяў. Яе завуць таксама дзікай казой.

Гэта грацыёзная жывёла вельмі асцярожная, таму ўбачыць яе можна толькі выпадкова. У казулі многа ворагаў, галоўны з якіх – чалавек. За ёй ганяюцца воўк і рысь, а на малых нападаюць лісіца, янотападобны сабака, дзік, арол, пугач.

Цела казулі быццам створана для бегу: лёгкае стройнае тулава, доўгія, тонкія ногі, невялікая галава з прамымі вушамі. Дарэчы, моцныя заднія ногі, крыху даўжэйшыя за пярэднія, дазваляюць рабіць вялікія скачкі.

У маладых самцоў вырастаюць маленькія рожкі-спіцы і толькі на другі год з'яўляюцца рогі з двума – трыма адгалінаваннямі. На трэці год яны дасягаюць поўнага развіцця. Самцы казулі, як і алені, восенню, пасля гону, скідваюць рогі.

У густых хвойных і ліставых лясах казулі амаль не водзяцца. Часцей за ўсё іх сустрэнеш у светлых бярозавых або асінавых гаях з шырокімі палянамі, высечкамі. Тлумачыцца гэта проста: у светлым лесе лягчэй заўважыць небяспеку.

Казулі харчуюцца сакавітымі травамі, маладымі парасткамі дрэў, кустоў. Жывёлы адкусваюць адзін – два кончыкі галінкі з маладымі лісточкамі. Ім падабаюцца лісце і тонкія галінкі асіны, рабіны, бярозы, ясеню, ліпы, вярбы. Вясной казуля з ахвотай есць сон-траву, медуніцу, лілеі. Затым падрастаюць і наліваюцца сокам бабовыя, казяльцовыя, парасонавыя.

Жывёла добра плавае і любіць вадзяныя расліны. Казулі, як і алені, ужываюць грыбы, любяць суніцы, чарніцы, буякі, брусніцы, плады дзікіх фруктовых дрэў, ядуць жалуды.

Цікавы рэжым харчавання казуль. Летам яны кормяцца раніцай, вечарам і ў першай палове ночы. На світанні кладуцца ў густую траву ці хмызняк. У час дажджу могуць пасвіцца ўвесь дзень.

Зіма – самы складаны і цяжкі перыяд для ўсіх капытных. Калі снегавое покрыва дасягае вышыні больш за 30 см, казулі адыходзяць у паўднёвыя раёны ці галадаюць, слабеюць і робяцца лёгкай здабычай ваўкоў.

Восенню жывёлы збіваюцца ў статкі па 10 – 12 асобін і мігрыруюць. Наогул, казулі – індывідуалісты, трымаюцца паасобку. Калі казуля пасвіцца адна, яна часцей узнімае галаву, насцярожана ўглядаецца і прыслухоўваецца. Асабліва асцярожнай робіцца тады, калі нараджаюцца цяляты. Звычайна іх двое, з'яўляюцца яны ў маі. Маці старанна вылізвае дзяцей. Хутка поўсць высыхае, становіцца мяккай і цёплай. Праз некалькі гадзін казуляняты спрабуюць устаць на ногі. Ляжаць яны заўжды асобна: калі адно загіне – выжыве другое. Воўк ці лісіца, якія валодаюць выдатным нюхам, могуць прайсці міма прыцілхых малых, бо казуляняты амаль не пахнуць.






У жніўні плямістасць маладых казуль змяняецца на аднатонную афарбоўку дарослых. Летам поўсць казулі вохрыстага колеру, зімой – серабрыста-шэрага. Поўсць на жываце больш светлая, каля маленькага хваста рэзка выдзяляецца белая пляма, якая завецца люстэркам.

У адрозненне ад аленяў самцы казуль не робяць сабе "гарэмаў". У лютым у іх адрастаюць новыя рогі, і да гэтага часу невялікія статкі распадаюцца.

**Эдгар ГРЭК.**

Асіповічы

**Малюнкі аўтара.**

**— А ты падпісаўся на часопіс «Родная прырода»? Дык паспяшайся!**

**Фота Уладзіміра ФЯДОТАВА.**

# Чистая легковушка и уж

Ловко огибая стволики рогоза и тростника, ужик маленькой стрелкой мчался по теплой прибрежной воде. У него была своя цель.

И так же стремительно он врезался во что-то липкое и вонючее. Не заметил, не почувствовал, не унюхал едва видного на поверхности грязного лоскута мазута.

Чья-то любимая легковушка стала чище.

Ужик едва не задохнулся от налипшей грязи.

Плохо различая все вокруг сквозь мутную пелену, он выбрался на берег. Грязно-рыжие разводы покрывали все тело маленького ужа.

Он не понимал, кто на него напал. И старался избавиться от врага. Уж терся о траву, камни, корни, но кожа горела и сжималась все сильнее...

Через день сорока нашла мертвого ужика. Она долго рассматривала это вывалянное в песке, в сухих листьях, травинках существо. Клюнула раз, клюнула два и забросила в кусты. Есть не стала.

# Пришли попрощаться

Сначала егерь нашел кучу утиных перьев и клюв. А потом, в зарослях ежевики, – гнездо с десятком яиц. Яйца были уже холодные, но егерь забрал их и подсунул под свою домашнюю утку, которая уже дня три насиживала свои яйца.

На свет появилось пятеро диких утят и целая орава домашних. Росли утята быстро. Вскоре вся компания стала ходить купаться и играть на копанку. Они вытягивались длинным живым шнурком и шествовали к воде. Но чаще всего строй нарушался. Дети разбегались по сторонам то за приглянувшейся травинкой, то за кузнечиком. И тогда утка останавливалась, сердито крякала, пыталась по именам называть всех провинившихся, сбивалась и молча наблюдала за всеми, чуть приоткрыв клюв. Глава семейства делал ей замечание по поводу невоспитанности детей.

К концу сентября серая пятерка приемышей занервничала. А в один из вечеров, вернувшись с пруда, утки, не дойдя до калитки, поднялись и улетели в сторону болота.

– Вот и все. Ни «спасиба» тебе, ни «до свидания», – ворчала жена егеря. – Улетели к своим.





Два дня уток не было. А на третий – пришли. Потрепали за уши большую и добродушную дворнягу. Ткнулись клювами в бока кошки. А когда хозяйка вынесла уткам еду, дикие протиснулись к ней и, не притрагиваясь к обеду, молча стояли у ее ног.

Вечером поднялись и улетели.

– Это же они попрощаться прилетали, – сказал егерь.

Больше приемышей никто не видел. Разве в пролетающих в теплые края стаях различишь, где твои утки, а где чужие?

# Не нужны мне ваши крошки!

Поймали одинокого старого воробья, который любил ночевать за наличником окна. Закрыли выходы и поймали. Посадили в клетку с большим куполом, специальными отсеками для сна, для гнезда. Многокомнатная, современная клетка.

В кормушку насыпали хлебных крошек, семечек подсолнуха, положили расколотый грецкий орех. Будь это на улице, на грядках, в траве – все в одно мгновение было бы съедено. А здесь воробей даже не взглянул на еду. И на воду в поилке тоже не посмотрел.

Он взлетал под купол клетки и бился, бился там о прутья, не понимая, почему не может улететь.

Хозяин клетки тоже не понимал, что воробью еще надо: столько еды, а он отворачивается от кормушки.

– Привыкнешь, – сказал он. – К хорошему привыкают быстро.

Утром мертвого воробья выбросили из клетки.

# Объединились

В Севастопольском сквере, поближе к Логойскому тракту, на дороге большая лужа. Она держится долго даже в жаркие дни. Сюда слетаются птицы. Пьют теплую воду, не переставая ссориться, воробьи. Большие любители покупаться. Над ними вспыхивают маленькие радуги.

Около лужи бегают трясогузки. Как пьют – не видел, все время охотятся за насекомыми.

Дрозды, попив водички, несколько минут сидят молча. Отдыхают. Осторожные галки что-то выбирают из следов на берегах лужи. Подлетают с соседних многоэтажек голуби. Эти везде как дома. Никого не боятся и никого не уважают.

И вдруг рассыпались в разные стороны мокрые воробьи. Растворились трясогузки. Пропали дрозды. С криком поднялись галки. Голуби не поняли, что произошло. Не сообразили, что не стремительный ветер пролетел, а ястреб-тетеревятник выхватил одного из них и, не взлетая высоко, скрылся в кустах.



Но были свидетели – галки. Они орали на весь сквер, заглушая шум автомашин. Их услышали вороны, которых здесь, кажется, и близко не было. Очень скоро стая ворон и галок выследила ястреба. Она кружила над кустами, где он сидел. У того не выдержали нервы, и он попытался перебраться в более надежное место. Но лететь надо было через открытое место. И тут на него накатил черный галдящий клубок. Удавалось ли кому из ворон и галок клюнуть ястреба – не знаю, заметить в той толчее такое невозможно. Но ястреб ловко ушел от нападающих. Он словно нырнул с высоты под кроны деревьев. А там ни воронам, ни галкам нет простора для маневра.

Стая еще долго демонстрировала силу своих голосовых связок над верхушками деревьев. Но это был пустой номер. Ястреб, ловко лавируя между стволами, далеко улетел от места происшествия.

*Любознательным*

# Летучий дракон



Ящериц на земле около 3800 видов. Это отдельная эволюционная линия рептилий. На протяжении длительного периода становления эти родственницы змеи приобретали и теряли конечности, приспособления для добычи пищи и продолжения рода, привычки жить на земле или в камнях, на деревьях или около воды.

Например, семейство агамы. Тут немало разновидностей, которые разительно отличаются одна от другой. Рогатая, плащеносная, скрытоухая, цейлонская... 300 видов. Среди них – летучий дракон. Род Drako. Это оригинальное живое существо среди многообразия ящериц. Дракон летает, как и положено делать всем драконам. Только не выпускает пламя изо рта. Крылья у ящерицы – широкие кожные складки на ложных ребрах.

Укороченная морда, стройное туловище в мелкой чешуе, длинные ноги с острыми когтями. Длина 25 – 40 сантиметров с хвостом. Ящерица, прыгнув с дерева, пролетает до 30 метров. При этом, как птица или насе-



# Позови. Мы придем

Года четыре назад Тимофеевич развесил на дачном участке немудреные кормушки: пакеты из-под молока, пластиковые бутылки. Раз в две – три недели зимой приезжал на участок и заполнял емкости семечками, разной крупой, сушеными ягодами рябины и смородины, отходами от стола. Насчитал однажды на своем огороде сразу двадцать синичек, пяток снегирей. Воробьев уже и не считал. Эти громко чирикали на крыше дома, на сарае, на яблонях.

Летом на участке Тимофеевича поселились в разных концах сада две семьи синичек. Одна – в железной трубе, которую он загнал когда-то на углу участка за домом, другая – в дырявом бочонке, который все недосуг было убрать из-под куста сирени. Две пары воробьев устроились под крышей, а семья трясогузки – в пустотелом блоке под забором.

Никто никого не боялся. Всем хватило места и еды.

А потом Тимофеевич приболел, зимой на даче не появлялся. И сад притих. Пустые кормушки никого не привлекали. Летом из всей сторожевой команды в саду осталась лишь пара воробьев. И скворцы не покинули обжитую годами дуплянку.

**Виктор КРУКОВСКИЙ.**

комое, способна менять направление полета. А за насекомыми охотится, бегая по стволу дерева и по ветвям.

Любит подраться с себе подобными. За территорию в основном. В свои охотничьи угодья самец не пустит даже близкого родственника. Если тот не сильнее хозяина.

Живут летучие драконы в странах Юго-Восточной Азии, в Китае, Индии.

*Дзівосны свет камянёў*

# Тварэц – вада

Вясна. Плачуць капяжы. Усё менш снегу на гарадскіх вуліцах. Па асфальце, дарожках паркаў бягуць ручаі. Вада, прасочваючыся між бетонных плітак тратуараў, праз трэшчынкі ў асфальце, паступова пранікае ўсё глыбей і глыбей у глебу. Неўзабаве дасягае так званага ваданоснага гарызонту – насычанай вадой порыстай горнай пароды. Яна залягае на непранікальных для вільгаці глінах ці на іншых водаўпорах.

Гэта падземная вада, падпарадкоўваючыся складаным законам руху, увесь час перамяшчаецца, сутыкаецца з горнымі пародамі, адначасова вышчалочвае, вымывае з іх розныя кампаненты: солі, хімічныя элементы, вапну.

Менавіта так утвараюцца ў тоўшчы растваральных вадой горных парод шматлікія пустоты самага рознага памеру – поры, каверны, калодзежы, пячоры, цэлыя падземныя лабірынты з вялікімі заламі і проравамі.

Некаторыя з карставых пячор маюць сусветную вядомасць. Французскі даследчык Нарбер Кастэрэ, які больш за трыццаць гадоў прысвяціў вывучэнню падземных лабірынтаў, абследаваў адну з грандыёзных з'яў прыроды – прорву П'ер-Сан-Мартэн у Пірэнеях. Сёння самай глыбокай карставай поласцю лічыцца прорва Бержэ ў Францыі – 1128 метраў. Мішэль Сіфр, вядомы французскі спелеолаг, апісаў грандыёзныя карставыя прорвы масіву Маргуарэйс у паўднёвых Альпах.

Па апошніх даных, адзінаццаць поласцей свету маюць глыбіню больш за 900 метраў. Большасць з іх знаходзіцца ў Францыі: Жан-Бернар у Савойскіх Альпах – 1410 метраў і іншыя; у Іспаніі – Л'Авенс В. – 1150 метраў, Ойас дэль Пілор – 1070 метраў; прорва Снежная на Каўказе – 1335 метраў, Кіеўская на Зераўшанскім хрыбце – 950 метраў.

Вуглякіслы кальцый у чыстай вадзе раствараецца параўнаўча дрэнна. Таму і зразумела, што ўтварэнне карставых поласцей у зямной кары – працэс працяглы, тысячагадовы. Але варта крыху змяніцца ўмовам, у якіх знаходзіцца вада, пачынаецца выпадзенне дробных часцінак вапны ў асадак і яго ператварэнне ў асадкавую пароду. Менавіта такім чынам узнікаюць хемагенныя (утвораныя хімічным шляхам) вапнякі – сталактыты, сталагміты, траверціны, а таксама даламіты. На тэрыторыі Беларусі хемагенныя вапнякі і даламіты ўтварыліся шмат мільёнаў гадоў назад у дэвонскі, каменнавугальны і іншыя перыяды ў гісторыі Зямлі.

Траверцін ці, як яго яшчэ называюць, вапнавы туф, – лёгкая, танкапорыстая або ячэістая парода. Яна ўтварылася ў выніку асаджвання вуглякіслага кальцыю з гарачых ці халодных крыніц. Нярэдка ўтрымлівае адбіткі раслін ці жывёл.

Калі вапняк утварыўся ў выніку выпадзення карбанату кальцыю ў асадак проста з марской вады, яго тэкстура будзе больш шчыльнай. Вельмі дробныя крышталікі шчыльна прылягаюць адзін да аднаго. Хемагенныя вапнякі такой тэкстуры больш трывалыя, цяжкія, цвёрдыя. Гэтыя пароды можна ўбачыць у каменнай абліцоўцы кінатэатра "Кастрычнік". Імі таксама абліцаваны Палац культуры Мінскага аўтамабільнага завода. А вось у аздобе вестыбюляў і залаў палаца пераважаюць вапнякі арганагенныя, якія ўтвораны дзейнасцю арганізмаў. У светла-шэрым, амаль белым камені сцен добра прыкметны шматлікія ракавіны арганізмаў, што жылі калісь. Ракавіны "пабудаваны" з вуглякіслага кальцыю, які арганізмы здабылі з марской вады. Арганагенныя вапнякі ўтрымліваюць рэшткі выкапнёвых ракавін малюскаў, каралаў, сцёблаў марскіх лілей, вапняковых водарасцяў і іншых раслін і арганізмаў, якія жылі на дне мораў.

Меней распаўсюджаны вапнякі, якія ўтварыліся з водарасцяў і арганізмаў, што жылі ў тоўшчы вады і рухаліся пад уздзеяннем хваль і марскіх цячэнняў. Такія вапнякі ў асноўным складаюцца з акамянелых водарасцяў і ракавін караняножак. Арганагенныя вапнякі выкарыстоўваліся пры абліцоўцы мінскага кінатэатра "Кастрычнік".

Белакаменная Масква, саборы Уладзіміра, знакаміты Нотр-Дам, піраміды Егіпта, старажытны Херсанес, Адэса – не пералічыць усіх ансамбляў, помнікаў, гарадоў, якія абавязаны сваім існаваннем вапняку, каменю кантрастаў і святлаценю, як яго нярэдка называюць скульптары і мастакі. Вапнякі бываюць розныя: слабыя і моцныя, лёгкія і цяжкія, цвёрдыя і мяккія, самых розных колераў і адценняў. Яны лёгка апрацоўваюцца: рэжуцца нажом, іх можна пілаваць. Вапнякі вытрымліваюць вялікія нагрузкі – да сотні кілаграмаў на квадратны сантыметр.

Гэты дзівосны камень выкарыстоўваецца не толькі ў будаўніцтве, але і ў металургіі, шкляной і харчовай прамысловасці, у сельскай гаспадарцы. Ён ужываецца пры вырабе цэменту, цукру, з яго атрымліваюць карбід кальцыю, едкі натр.

Радовішчаў карбанатных парод у свеце шмат. Іх пласты на працягу многіх кіламетраў праразаюцца Волгай, Ленай, Акой, Камай і іншымі буйнымі рэкамі. Вапнякі здабываюць у каменяломнях пад Адэсай і Керчу. Вядомыя Адэскія і Керчанскія катакомбы ў гады Вялікай Айчыннай вайны служылі прытулкам для партызан.

Некаторыя з радовішчаў вапнякоў і даламітаў сусветна вядомыя дзякуючы прыгажосці здабываемых тут парод. Незвычайна вабная шэрыя з жаўтаватым адценнем траверціны месцараджэння Юца каля Пяцігорска. Гэта дэкаратыўны камень, які выкарыстоўваецца для знешняй і ўнутранай абліцоўкі будынкаў і ў якасці элементаў садова-паркавай архітэктуры. Па сваёй будове, тэкстуры нагадвае каралы. Шырока вядома Краснапячэрскае радовішча ў Крыме. Тут здабываюць светла-жоўтыя траверціны ячэістыя.

З даламітаў найбольш вядомыя "эстонскія мармуры" – светла-шэрыя з блакітным адценнем пароды Каарма; блакітнавата-зялёныя і крэмавыя, з узорыстым малюнкам, які ствараюць цёмныя прожылкі і плямы, камяні радовішча Мусцьяла; шэрыя з карычневым адценнем і шматлікімі ўзорамі даламіты Окцья. Усе тры месцараджэнні знаходзяцца на востраве Саарэмаа ў Эстоніі.

Высока цэняцца вапнякі радовішча Пуцілкаўскае ў Ленінградскай вобласці – шчыльныя, жоўтаслаістыя, стракатa афарбаваныя вокісламі жалеза ў жаўтавата-чырвоны, фіялетавы, шаравата-зялёны колеры. Адметнае і месцараджэнне Верхне-Мягкоўскае на беразе Масквы-ракі. Камень тут белы і светла-шэры са слаба-крэмавым адценнем. Адзначым і радовішча Крамбольскае, размешчанае на ўскраіне Севастопаля, вапнякі якога белыя, сярэдне- і дробнакрышталічныя. Камяні каля Кутаісі маюць густы цагляна-чырвоны і ружовы колеры з жаўтаватым адценнем.

А аб'ядноўвае ўсе гэтыя камяні – вапнякі і даламіты – вада, якая іх стварыла.

**Усевалад БАРДОН,**
**кандыдат геолага-мінералагічных навук.**

# *З дзённіка вандроўніка*



## Пах вясны

Кожны дзень мацнее пах вясны.

Кожны дзень набліжае да лета.

Пайшоў беразак. Здаецца, звычайная, крыху салодкая вадкасць, але ёсць у ёй нешта такое, што робіць настрой песенным.

З хваляваннем чакаю прылёту буслоў. А іх усё не відаць, хоць шпакі і жаўрукі ўжо заліваюцца.

Сонца раніцай настойліва лезе ў вочы і не дае спаць.

Над галавою ў зыркім сонечным святле імчацца за небакрай пашматаныя хмары, нібы рэшткі старых ануч, што вясковая бабуля ў рэшце рэшт вырашыла выкінуць.

Пад плотам ляжыць недаталая гурба бруднага снегу з цукеркавай паперкаю пасярэдзіне. І, падтрымліваючы яе жыццё, ноччу часам прыціскае мароз. Але ўзыходзіць сонца, ён адступае. Аднойчы гурба снегу знікла. Засталася лужына з паперкай-карабельчыкам.

Глебу прабілі першыя стрэлкі травы і нарцысаў. Лугавіны шэра-жоўта-зялёныя.

На прагрэтым баку пагорка замігцела першая зорачка падбелу. А ў лесе засінелі, спрачаючыся з нябёсамі, пралескі...

І вось, нарэшце, першая лістота, з пахам маладосці, вясны і кахання. Новы аркуш, на якім будзе напісана ода жыццю...



## Зорная ноч і яблык

Чую, як нешта падае на зямлю. Быццам нехта цяжка-цяжка ўздыхнуў. "Што гэта можа быць?" – думаю. А сэрца сціскаецца: нікога навокал няма, акрамя мышэй у сене. Толькі потым, крыху сцішыўшы сэрца, разумею, што гэта яблык. Проста яблык.

І адразу прыходзіць спакой. Пачынаеш удумвацца ў такую з'яву, як падаючы яблык.

Ды чамусьці на розум прыходзіць не закон Ньютана, а тое, што гэты яблык ляжыць зараз у бульбе, на халоднай зямлі і настойліва заве мяне ўзяць. Ды каб хутчэй. Я яскрава бачыла, як яблык пазірае ў зорнае неба, як яму баліць трэснуты бок. Адчувала на губах празрыстую, духмяную і густую, нібы мёд, вадкасць.

Хачу бегчы ў сад шукаць, мацаючы рукамі зямлю і ламаючы сцяблiны бульбоўніку, тое найвялікшае на дадзены момант багацце, што падаравала прырода. Ціха, каб не зарыпелі дзверы, выбіраюся з пуні ў ноч, напоўненую гукамі. Спачатку бачу зорнае неба. Вялізнае. А я такая маленькая пад ім. Такой я крадком, нібы злодзей, іду ў бульбоўнік і шукаю, забыўшыся на ўсё на свеце, свой скарб. І, вядома, знаходжу, бо яблыкаў на зямлі было ўжо многа. Але адчуваю сябе героем, горда іду да сваёй пуні і там, зваліўшыся на сена, кусаю яблык.

Усё становіцца абыякавым: і зорная ноч, і пах сена, і мышкі, і недалёкая Пціч, і заўтрашні дождж ці леташняя вясёлка. Застаўся толькі пах і смак яблыка. І памяць у далоні, якая адчула халадок яблыка, кроплі вільгаці на ім, пругкасць цела.

Яблык! Цудоўны Скарб Зямлі.

## Перунова гульня

Сонца зайшло ў хмары – будзе дождж.

За нашымі спінамі патрэсквае сухім галлём вогнішча, запрашаючы падсесці крыху бліжэй і забыцца на ўсе праблемы. Пах дыму, такі салодкі і горкі адначасова, – аж шчыплe ў вачах. Тут, ля вогнішча, адчуваеш сябе сваім далёкім продкам, бо на беразе Прыпяці нічога, здаецца, не змяняецца тысячагоддзямі. Гэтак жа, як і раней, цёмныя карункі кустоўя на супрацьлеглым баку ракі і сама рака, з даўнейшых баладаў і легендаў. Прыпяць – нязменная. Як неба над ёю, як зямля вакол яе. Прыемна раптам адчуць, што ты таксама тут свая і што тваё вогнішча – гэта яшчэ адна зорка над Прыпяццю. Нібыта ты заўсёды жыла над гэтым абрывам і будзеш жыць у нашчадках.

Яшчэ не паспелі згаснуць апошнія водбліскі сонца, а прырода ўжо спяшаецца напоўніць месячным святлом прастору.

Непадалёку прачнуліся жабы і "заспявалі", далучыўшы свой голас да голасу конікаў і камароў. Над Палессем месяц – жоўтая пляма, ад якой слепнуць зоркі. А што далей? Далей нас на колькі гадзін зморвае сон. Ды трывожыць месяц. Ён бессаромна разглядае нас, свеціць у вочы, здаецца, разам з камарамі забіраецца пад коўдру. Прачынаючыся, кожны раз можна бачыць яго ўсмешку і маўклівае спачуванне зорак. Але ў нейкі момант мы яго ўжо не заўважаем.

Мы прачнуліся таму, што месяц знік. Над галавою, паміж хмарамі – маланкі і далёкія грымоты.

Маланкі мільгаюць. Сполахі ў іржавых хмарах ці яркія ніткі, што, злучаючы зямлю з небам, недзе за дзесяткі кіламетраў ад таго месца, дзе стаім мы, і, аднак, нібы побач, заварожваюць, не даюць адвесці позірк. Грыміць, не сціхаючы, гром.

Ногі прыраслі да зямлі, недзе каля сэрца ўзнімаецца страх, што праз хвіліну навальніца будзе біць каля цябе, а ты, як мокры цуцык, павінна будзеш сядзець пад кустом і чакаць, а можа, яшчэ і маліцца. Толькі невядома каму. Перуна прасіць праляцець міма? Гэта ж ён раней за іншых аблюбаваў гэтую цудоўную ваяўніча-пяшчотную зямлю.

Навальніца падыходзіць усё бліжэй і бліжэй. Ды ўжо не страх, а захапленне сілай і незвычайнай прыгажосцю перуновай гульні над Прыпяццю ахоплівае сэрца.

## Чарадзейны дождж



Ноч запаўняецца цёплым пахам травы. Лужыны здаюцца чорнымі праваламі на лясной дарозе. У лесе ціха. Нават неяк няёмка ад таго, што пасля навальніцы стаіць такая ціша.

Кажуць, што менавіта ў такія ночы пачынаюць расці грыбы. Здаецца, у паветры ўжо з'явіўся лёгкі "грыбны пах". Ён зліваецца з пахам траў, смалы, хвоі і яшчэ нечага. Можа, нябачнага туману, халадок якога кладзецца на твар?

Дарога заводзіць глыбей у лес, пад елкі і сосны. Зрэдку страшна становіцца. Ці не воўк там, ці не ваўкалака вочы? Святло месяца адбіваецца ў кроплях на галінках.

Чутна, як на пясок, на ігліцу, на мінулагоднюю лісце падаюць цяжкія кроплі.

Слухаю гэтую музыку. Яе рытм раптам мяняецца. Ужо не кроплі з галін, а дождж зашамацеў наўкол. Ды спорны такі.

Схавацца не паспяваю. Ды і навошта? Таму змакаю да ніткі. Але ж нешта светлае і ўзнёслае запаўняе душу. Можа, гэта пахі і гукі ночы так дзейнічаюць на мяне ці чарадзейны дождж?

**Ганна ДУБОВІК.**
**Фота аўтара.**

Мінск

# Роющие осы



Ос, пожалуй, знает каждый. Они всюду: на лесных полянах, в садах, парках, иногда даже залетают в дом, в квартиру. На территории Беларуси выявлено более 350 видов ос, относящихся к десяти семействам. Так же, как пчелы, осы принадлежат к группе жалоносных перепончатокрылых насекомых, отличающихся многообразием существующих форм и сложным комплексом поведенческих реакций. Одной из главных отличительных черт жалоносных, как это вытекает из названия, является наличие у них жала – видоизмененного яйцеклада, служащего для защиты и нападения.

У различных семейств ос много общего, но есть и значительные различия. Прежде всего это касается образа жизни: большинство из них – одиночки, но встречаются и «общественники» из подсемейства веспин. Наиболее богатые в видовом отношении роющих осы-сфециды. Всего в мире известно около восьми тысяч роющих ос, большинство которых обитает в тропиках и субтропиках. В Беларуси их значительно меньше – около 200 видов.

Самки сфецид проявляют заботу о своем потомстве. Они строят гнезда, заготавливают в них провизию для своих личинок – парализованных или убитых насекомых и пауков.

Роющие осы опыляют 95 видов растений. Хотя строгой пищевой специализации у насекомых нет, они все же предпочитают посещать растения семейства зонтичных. Иногда роющие осы уничтожают и полезных для человека насекомых, например пчел.

Многих интересует вопрос: способны ли роющие осы сильно ужалить? Половина из них (самцы) вообще не имеют жала. Самки могут нанести иногда чувствительный укол, сила которого зависит от размеров самой осы. Однако большинство, даже крупные сфециды, в этом отношении безобидны, особенно в сравнении с общественными осами – шершнем, германикой и т.д.

Роющие осы бывают крупные и мелкие. Различаются по цвету, форме тела, способу устройства гнезда. Спиломена обычно имеет размеры 2 – 3 миллиметра, а особи из рода сфекс превышают их на порядок. Мелкие чаще всего черные. У более крупных, кроме основной черной или красно-черной окраски, часто на теле белые или желтые пятна различной формы. Самцы и самки нередко различаются по форме и размерам тела, окраске. Самки роющих ос, за редким исключением, сами строят гнезда. Одни осы делают норку, выгребая почву передними лапками, другие – выметают, имея на передних лапках щетинки, третьи – вгрызаются в землю челюстями. Уплотняются стенки норки брюшком.

Наблюдательный человек может увидеть роющую осу почти везде. Легче всего найти насекомых на открытых песчаных участках во время постройки гнезда – на обочинах дорог, тропинках, откосах. Однако не все виды роющих ос строят свои гнезда в почве. Многие из них используют для этого полые стебли травянистых растений или уже готовые полости, проделанные древогрызущими насекомыми в ветках и стволах деревьев, деревянных строениях.

Вот одна из роющих ос – песчаная аммофила. Ее легко узнать по продолговатому красно-черному брюшку. Очень часто аммофил можно заметить в конце мая – начале июня. Они рыскают по обочинам дорог, в сухих сосняках, а также в других местах, где есть открытые песчаные и хорошо прогреваемые участки. Самка аммофилы выкапывает в песке с помощью челюстей и передних лапок отвесную норку-колодец обычно пяти сантиметров глубиной, расширяющуюся на конце в виде округлой ячейки. Выбранный грунт она уносит от гнезда, зажимая его между головой и передними лапками. После окончания строительства оса каким-нибудь предметом – камешком, кроличьим пометом – закрывает вход. Делается это для того, чтобы другие самки, муравьи, паразитические мухи не заняли гнездо.

Сразу после постройки гнезда самка аммофилы песчаной отправляется на охоту. Добыча – гусеницы пядениц, белянки, совки, личинки пилильщиков.

Самка парализует их несколькими уколами жала в главные нервные узлы, но не убивает. Благодаря этому запас пищи для будущего потомства долго остается свежим – порой до четырех недель. Добычу оса может тащить иногда на расстояние до ста метров, обычно держа ее под собой на весу с помощью челюстей и средних ног. Для ориентации осе служат различные предметы – пучок травы, камни, деревца, расположение которых она запоминает, отправляясь на охоту. Оса затаскивает добычу внутрь норки и откладывает яйцо, по цвету и форме напоминающее зернышко риса. Если жертва крупная, гнездо снова запечатывается. Но если добыча мелкая, вышедшая из яйца личинка съедает вначале первую гусеницу, а затем мать приносит еще две – три. Четыре дня кормится личинка, потом делает двухслойный кокон. Личинка становится куколкой. Теперь гнездо окончательно запечатывается. Для этого сначала втаскивается крупный камешек, затем несколько более мелких и наконец рыхлый песок, который оса прессует головой с характерным жужжанием. Часто оса, зажав верхними челюстями камешек, может использовать его в качестве орудия труда для утрамбовки песка.

Такая удивительная забота о потомстве может натолкнуть на мысль об осознанности действий аммофилы. Но все оказывается проще, поскольку здесь имеет место ряд генетически закрепленных этапов поведения. Каждый из них создает в гнезде новую ситуацию с ключевым раздражителем для последующих действий. Так, пустое гнездо стимулирует осу к поиску добычи и откладке на нее яйца. Гнездо с гусеницей и личинкой побуждает осу искать новую добычу и т.д. Но не всегда все идет по единому сценарию. Иногда принесенная гусеница становится добычей других хищников, и тогда вместо двух – трех гусениц оса вынуждена приносить их больше.

**Александр ШЛЯХТЕНОК,**
**ведущий научный сотрудник**
**Института зоологии**
**Национальной**
**академии наук Беларуси,**
**кандидат биологических наук.**



**Усмешка ў канверце.**
**Фота Ірыны ЧАРНАБАЙ.**


Фота Уладзіміра ФЯДОТАВА.

# ... Калі так прывольна было бацянам

**Уладзімір Верамейчык нарадзіўся ў Брагінскім раёне. Ёсць там вёска Петрыцкае. Працаваў настаўнікам, дырэктарам школы. Напісаў некалькі паэтычных кніг. І ўсе яны прасякнуты любоўю да роднай прыроды.**

**Паэт памёр чатыры гады таму. А вершы жывуць. Яны напоўнены галасамі птушак, вясёлымі спевамі веснавых ручаёў, цёплым сонцам, багатымі колерамі родных мясцін.**

Паэт любіў назіраць за птушкамі. Слухаць іх вясной і ўлетку, сачыць за адлятаючымі ў вырай восенню, спачуваць крылатым у час зімовых маразоў. Птушак У. Верамейчык успрымае як жыхароў яго дома, чулых і ветлівых сяброў.

Напрыклад, бусел. Напісана аб ім многа. Сімвал чысціні, вернасці роднай зямлі, сямейнага дабрабыту… І між тым паэт знаходзіць тут і свае словы, і свой вобраз. Яму балюча бачыць, як разбураецца прыроднае асяроддзе, як топчуць людзі прыгажосць.

І палёт жураўля прыцягвае ўвагу паэта. Жураўліны вырай будзіць у яго сэрцы роздумы пра бег жыцця, незваротнасць часу і вечнасць: "Мелодыі лета сплываюць па хвалях празрыстых. Пазначаны шлях паміж хмараў маму жураўлю".

Ці вось зязюля. У вуснай народнай творчасці, яшчэ з часоў "Слова аб палку Ігаравым" птушка стала алегорыяй жанчыны-пакутніцы. Сучасная паэтычная інтэрпрэтацыя вобраза наступная: зязюля-варажбітка, вяшчунка долі, прадвесніца гора або радасці. (Гэта мы бачым і ў Я. Купалы, М. Багдановіча.) Іншы раз зязюля вяшчуе вясну, каханне, нагадвае пра хуткацечнасць быцця. У вершы У. Верамейчыка інтымнага плана "Чаканне" зязюля – віноўніца мяжы паміж юнацтвам і сталасцю лірычнага героя, якая сваім "ку-ку" спыніла, пакінула ў мінулым яго каханне, пару студэнцтва, стала сімвалам яго адзіноты:

*Я хачу у Мінск у дождж прыехаць*
*У правінцыяльным пінжаку.*
*Тут даўно зязюля адкувала*
*Ўсе мае студэнцкія "ку-ку".*

Жаўранак таксама не застаўся без увагі. Першы прадвеснік вясны, абуджэння жыцця, сімвал ранішняй Беларусі і яе моцы. Жаўрукоў звон, песня – гэта цуд, які высока лучыць сэрца паэта з нябёсамі. У вершы "Беларусь юбілейная" У. Верамейчык пісаў: "… Звіні, жаўрук, пад самым дахам неба". Верш – пажаданне краіне заставацца маладой, мірнай, спеўнай, пладароднай.

"Лятуць, нібы паштоўкі, снегіры", – піша паэт аб прыгожых птушках на прысыпаных снегам кустах. Снягір навявае паэту ўспаміны аб каханай і маладосці: "… Пад вокнамі тваімі – снегіроў падскокі. З табой я любаваўся імі ў час далёкі".

А якія вершы абыходзяцца без салаўя? "Салоўка над Прыпяццю свішча, Над плоймаю нашых гадоў…"

На схіле свайго жыцця паэт звяртаецца да салаўя з просьбай нагадаць пра маладыя гады:

*І салаўя прашу пад юнай вішняй:*
*Мяне парадуй песняй несуцішнай,*
*Твой спеў люблю!*

Паэт не гаворыць ні аб колеры птушак, ні аб іншых іх асаблівасцях. Яны, птушкі, – дзеючыя асобы, частка існавання чалавека, моцная сувязь яго з прыродай. І таму маладосць, вясна, творчае гарэнне асацыіруюцца ў паэта з птушкамі, якія адчыняюць вясну, новую, незвычайную пару абуджэння зямлі.

Прырода арганічна ўпісваецца ў вершы і становіцца то фонам, на якім адбываюцца падзеі, то ўдзельніцай саміх падзей.

А часам – галоўным героем верша. І тады адчуваеш, як цесна звязаны паэт з прыродным асяроддзем, яго насельнікамі, як моцна ўвайшлі яны ў яго жыццё. Усе гэтыя сінічкі, дзятлы, качкі – радня паэта, без якой жыць немагчыма.

*Любімая, спіце …*
*Яшчэ не прачнулася Прыпяць*
*І чаек крыклівых з нябёс*
*Не зляцеў снегапад.*

Метафарычны "снегапад" гаворыць пра белізну "адзення" гэтых птушак, а эпітэт "крыклівыя" выяўляе іх характар.

У. Верамейчык – таленавіты паэт, перакладчык мовы жывёл на вершаваную мову. Ён тонка пранікае ў псіхалогію, норавы жывых істот.

Узяць таго ж каня, які апеты многімі паэтамі розных часоў. Вытокі міфалагічных павер'яў і ўяўленняў пра каня звязаны з роляй яго ў гаспадарцы: ён заўсёды быў верным і надзейным памочнікам чалавека, увасабленнем сілы і дабрабыту. Па народных павер'ях, конь уплывае на здароўе чалавека і пладароддзе нівы, засцерагае свайго гаспадара ад нячыстай сілы і прыносіць удачу. У славян-земляробаў конь быў незаменным памочнікам у працы, яго бераглі, апекавалі, абагаўлялі. Беларуская паэзія ставіцца да гэтай жывёліны адухоўлена-ўшанавальна, гуманна, бо коні прайшлі разам з чалавекам праз усе вайны, разам дзялілі нягоды, і гэта яднала іх лёс.

Вялікім пачуццём спачування да істот, якія многа перажылі, пранікаецца паэт у вершы "Мангольскія коні". Калгас страчвае "мангольскіх хворых коней чараду", што ратавала палескае сяло ад голаду: "Было іх дзесяць, дзевяць, потым восем: Як людзі, паміралі ў баразне. Як зараз помню: усім сялом галосім, Калі каня раптоўна смерць прымне …" Паказваючы трагедыю пасляваеннага Палесся, паэт узнімаецца да нацыянальнага і агульначалавечага выяўлення стану маралі і чалавечнасці на зямлі.

Лірычны герой раствараецца ў "надрэчнай пахкай цішыні", зліваецца са светам прыроды, з'яўляецца часткай гарманічнага прыроднага суладдзя.

Прыхільнік рыбалкі, як і многія лірыкі, паэт захапляецца багаццем палескіх рэк. І прыцягваюць увагу, хвалююць рыбацкія замалёўкі.

*Узрэжам Прыпяці гарбіну,*
*Прынаду высыплем язям.*
*І вірыстай ракі даніна*
*Належаць будзе толькі нам!*

І, зразумела, паэт бачыў, як змяняецца прыроднае асяроддзе, бяднее, зняўечваецца, як чалавек сячэ сук, на якім сядзіць. І ён заклікае, каб калегі па пяру помнілі пра рэкі, сталі іх "трыбунамі" і "мецэнатамі":

*… Пакуль у іх глыбозных кручах*
*Яшчэ дурэюць шчупакі,*
*Бо хутка ў водмелях смярдзючых*
*Навечна стануць чаўнакі.*

Пасля Чарнобыля сэнсавая трактоўка вобразаў жывёл, птушак, рыб, насякомых стала драматычнай. Рыба нясе ў сабе атруту. Птушкі могуць быць хворымі. І ўжо няма той радасці, з якой сустракаўся паэт з роднымі мясцінамі, знікла светлае замілаванне імі, з'явіліся трывога і боль. Бо здарылася непапраўнае.

*І па мне мурашамі*
*нукліды злавесныя поўзаюць,*
*Бессаромна залазяць*
*у вушы і нават у рот…*
*… Я у "зоне" жыву:*
*і не хочацца рыбы мне*
*з Прыпяці.*

Паэзія Уладзіміра Верамейчыка светлая і ўзнёслая. Яна – у прыродзе. А прырода – у яго вершах. І што б ні здаралася, паэт сваімі вершамі і сёння заклікае нас любіць свой край. Бо і кожная птушка, і кожны звярок, дрэвы, кветкі, крынічкі, рэкі, узгоркі – усё гэта наша Радзіма.

**Алена ВАНЬКОВІЧ,**
**аспірантка Гомельскага дзяржуніверсітэта імя Ф.Скарыны.**



**Фота Ігара БЫШНЁВА**
**«А гэта — будучая чубатая сініца».**



# Прыродныя сіноптыкі

Нашы далёкія продкі яшчэ не разумелі, чаму ідуць дажджы, грыміць гром, бліскае маланка, шалее бура, якая з коранем вырывае дрэвы. Яны лічылі, што нейкія магутныя духі ўсё гэта пасылаюць на зямлю.

Чалавецтва на працягу тысячагоддзяў імкнулася разгадаць гэтыя з'явы, сачыла за надвор'ем і назапасіла вялікі вопыт. Урэшце, людзі навучыліся прадказваць пагоду, прыдумалі дзеля гэтага розныя прыборы.

Дапамагаюць і мясцовыя прыкметы. Напрыклад, добрае надвор'е прадказваюць такія з'явы: вецер слабы, узмацняецца ўдзень і сціхае к ночы; увечары зара мае залаціста-жоўты колер з ружаватым адценнем; пасля заходу сонца ў нізкіх мясцінах над ракой, возерам, балотам з'яўляецца туман; увечары выпадае шчодрая раса, якая застаецца да раніцы.

Прыкметы ж магчымага дзённага ліўня: удзень спякотна, вільготнасць паветра вялікая; кучавыя воблакі ўдзень хутка растуць



Фота Уладзіміра **ФЯДОТАВА** і Уладзіміра **БЛІНОВА**.

уверх і нагрувашчваюцца ў выглядзе вежаў рознай вышыні; чым большай вышыні дасягаюць вяршыні навальнічных воблакаў, тым будзе мацнейшы дождж; град можна чакаць пры вельмі моцным развіцці навальнічных воблакаў, на якіх бачым белыя палосы.

А вось што папярэджвае аб пагаршэнні надвор'я: ціск паветра паніжаецца, удзень і ўначы тэмпература амаль аднолькавая; ноч перад пагаршэннем надвор'я заўсёды бывае незвычайна цёплай, на гарызонце з'яўляюцца тонкія пёрыстыя воблакі, часцей за ўсё ў заходнім ці паўднёва-заходнім баку неба; вячэрняя зара ярка-чырвоная ці барвовая; зоркі моцна мігцяць, пры гэтым узмацняюцца сіні і чырвоны колеры.

А калі ў час дажджу вецер рэзка адхіляецца ўправа, асабліва на паўночна-заходні і паўночны напрамак, – чакай паляпшэння надвор'я.

Вакол нас шмат розных раслін. Чалавек здаўна прыкмеціў, што яны – добрыя сіноптыкі, толькі назірай за імі. Праўда, вызначыць па іх надвор'е можна на бліжэйшыя гадзіны ці на наступны дзень.

Вельмі адчувальная да змены ўмоў надвор'я ленкаранская акацыя. Перад навальніцай яе лісце нікне, а ружовыя кветкі згортваюцца. Кветкі ж жоўтай акацыі звычайна ўвечары моцна пахнуць. А вось калі іх водар узмацняецца сонечным ранкам, то неўзабаве будзе навальніца. Перад непагаддзю бэз, ляўконія і петунія пахнуць мацней. Кветкі акацыі выдзяляюць шмат нектару.

Кветнік – дакладны прадказальнік надвор'я. Прыгледзьцеся да яго. Ваўсю свеціць сонца, а іпамея, мальва, наготкі шчыльна склалі свае пялёсткі і быццам завялі. Значыць, да дажджу.

Адчувальная і макрыца. Яе кветкі раскрываюцца рана. А вось калі да дзевяці гадзін яны яшчэ "спяць", то несумненна чакаецца дождж. Перад непагаддзю нікне лісце лясных раслін – кісліцы і крупкі. Конскі каштан перад працяглай непагаддзю выдзяляе шмат клейкай вадкасці.

Лугавыя кветкі таксама добрыя сіноптыкі. Перад дажджом згортвае лісце канюшына лугавая, кветкі буйміны лугавой нікнуць, а баркун моцна пахне. Кветачкі адуванчыка, казлабароду, падбелу, чартапалоху закрываюцца.

Чалавек, калі хоча даведацца пра надвор'е, назірае і за птушкамі, млекакормячымі, насякомымі. Калі, напрыклад, зялёныя конікі не стракочуць увечары, – перад дажджом. Каршуны, наадварот, перад надыходам непагадзі працяжна крычаць "пі-і-і-іць". Калі насякомыя мінаюць светнік (горыцвет), не садзяцца на кветку, будзе яснае надвор'е; садзяцца – да дажджу.

Можна прадказаць надвор'е і зімой. У лесе за суткі да надыходу адлігі, нават у моцны мароз, мышы, некаторыя жучкі выпаўзаюць з-пад ляснога подсцілу на снег. Лясныя палёўкі яшчэ ўвосень адчуваюць, якая будзе зіма: з глыбокім снегам ці невялікім. Перад снежнай зімой



яны капаюць неглыбокія норкі, маласнежнай – глыбокія.

Вавёрка перад марознай зімой ладкуе сваё гняздо нізка на дрэве, а калі чакае цёплую – высока.

Перад мяцеліцай дзіўна паводзяць сябе алені, ласі. За суткі да надыходу непагадзі яны без усялякіх прычын робяць невялікія вандроўкі. А цецерукі і курапаткі з адкрытых мясцін лесу пералятаюць у гушчар.

Кожны дзень мы чуем па радыё і тэлебачанні прагнозы надвор'я. Арыентуемся на іх. Але ж вельмі цікава назіраць за раслінамі і жывёламі, воблакамі, зоркамі. Яны многае вам раскажуць.

**Д. АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

